# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamleńni**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, pahonia.com*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 11 (609)**
**Лістапад 2016 г.**


# Кастрычніцкі сход Згуртаваньня “Пагоня” і прэзэнтацыя альманаха “Беларус” за 2016 год




У суботу, 15 кастрычніка 2016 года, у Доме Маракоў на Мангэтане ў Нью-Ёрку прайшоў сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”, на якім адбылася прэзэнтацыя чарговага выпуску літаратурнага альманаху “Беларус”.

Напачатку сходу старшыня Згуртаваньня “Пагоня” сп. Віталь Зайка прывітаў прысутных і коратка распавёў пра дзейнасьць арганізацыі, пра маючыя адбыцца імпрэзы, у тым ліку сьвяткаваньне ўгодкаў Слуцкага Збройнага Чыну, што пройдзе на адным з наступных сходаў – дзеля падрабязьнейшай і апэратыўнейшай інфармацыі сачыце за абвесткамі на старонцы “Пагоні” у Фэйсбуку і за сайтам арганізацыі. Затым сп. Зайка перадаў слова рэдактару і выдаўцу альманаху “Беларус”, які таксама рэдагуе інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “Весткі й Паведамленьні”, сп. Марату Клакоцкаму.

Сп. Клакоцкі адкрыў імпрэзу адзначыўшы, што гэты выпуск альманаху дзясяты па ліку і рэкордны па сваім памеры – 400 старонак. Ён даў кароткі агляд гісторыі стварэньня і выхаду ў сьвет першага нумару альманаху 9 год таму. Сёлета сярод аўтараў 25 чалавек зь 10 краінаў сьвету, ад Канады да Аўстраліі. Прамоўца прыгадаў таксама кур’ёзны выпадак на 32-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Атаве, дзе асобнік альманаху ў памешканьні гатэлю, дзе ладзілася беларуская мастацкая выстава, набыў чарнаскуры маладзён з Ямайкі. Ніколі ня ведаеш, можа і на іншых кантынэнтах зьявяцца ня толькі чытачы, але і новыя аўтары, тым больш што ўжо цяпер сярод іх ёсьць людзі, якія не зьяўляюцца этнічна беларусамі. “Рады наагул адзначыць, што дасягнуў дзесятага нумару – гэтай важнай вяхі ў друку любога выданьня. А таксама рады, што аднаму з нашых сталых аўтараў Максу Шчуру з Прагі на гэтым тыдні прысудзілі набольш прэстыжную ў Беларусі літаратурную Прэмію Ежы Гедройця. Макс Шчур, дарэчы, перакладаў з Боба Дылана, нядаўна абвешчанага ляўрэатам Нобеля па літаратуры. Спадзяюся, што праз гэты факт альманах стане больш заўважаны і вядомы ў Беларусі і – хто ведае – прэміі могуць здабыць таксама іншыя аўтары штогадовіка. Наагул, канешне, у альманаху прадстаўленыя розныя па сваім узроўні аўтары. Але я не ставіў сабе за мэту абіраць адных і адкідаць другіх. Бо лічу галоўнейшым заахвочваць жаданьне пісаць па-беларуску і падтрымліваць пляцоўку для публікацыі беларускіх мастацкіх твораў у замежжы. Менавіта таму было вырашана публікаваць тых аўтараў, што жывуць у замежжы, бо на Бацькаўшчыне, нягледзячы на ўсе цяжкасьці, усё ж больш магчымасьцяў гэта зрабіць”.

Затым прамоўца адзначыў, што альманах рассылаецца ў розныя бібліятэкі й вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі, дзе ёсьць беларускія катэдры, а таксама па сьвеце ў бібліятэкі вядучых унівэрсытэтаў з славянназнаўчымі калекцыямі. Па Эўропе, прыкладна сем бібліятэкаў у свой час выказалі жаданьне атрымліваць наш альманах, і ў іх ліку, напрыклад, Брытанская бібліятэка ў Лёндане. “Вельмі важна, каб нашае выданьне пашыралася, каб яго больш ведалі. Таму – дапамагайце, купляйце, чытайце, пашырайце”.

Сярод пытаньняў, зададзеных сп. Клакоцкаму былі пытаньні пра тое, хто можа падаваць свае творы на публікацыю ў альманаху, ці прымаюцца да друку пераклады, і хто дапамагае яму ў падрыхтоўцы й выданьні альманаху. Сп. М. Клакоцкі сказаў, што даслаць свае творы можа кожны, хто жыве па-за межамі Белапрусі й мае да публікацыі мастацкія тэксты па-беларуску: прозу, паэзію, драму, эсэі. Наконт перакладаў раней быў такой думкі, што гэта крыху іншага кшталту творчасьць, не наўпрост арыгінальна беларуская, і аддаваў перавагу новым аўтарскім творам. Але сп. Кіпель некалі пераканаў, што кожны літаратурны пераклад на беларускую належыць ужо нашай літаратуры і ёсьць каштоўным унёскам у яе ўзбагачэньне, таму пераклады заўсёды прысутнічаюць на старонках выданьня.. З тых, што дапамагае ў падрыхтоўцы альманаху – гэта найперш карэктары, і вялікая падзяка належыцца сп-ні Алене Высоцкай, якая рабіла карэктуру перых нумароў выданьня, і пасьля мусіла адмовіцца, бо пачала вучобу тут, у Амэрыцы. Тады справу пераняла сп-ня Віялета Кавалёва з Таронта (Канада). Карэктура – гэта справа нялёгкая і вельмі крапатлівая, патрабуе вельмі шмат часу і падрыхтоўкі, бо трэба

*працяг на бачыне 2*

# Сход Згуртаваньня “Пагоня” і прэзэнтацыя альманаха “Беларус”

*працяг з бачыны 1*

вычытваць тэксты па некалькі разоў, ведаць правілы правапісу тарашкевіцай, бо альманах выходзіць традыцыйным правапісам, і прафэсіяналаў у гэтай галіне наагул няшмат. Цяпер шукаем карэктараў на наступны выпуск.

Рэдактар затым перадаў слова сп. Сержуку Сокалаву-Воюшу, які пераняў далейшае вядзеньне прэзэнтацыі. Сп. Сокалаў-Воюш, знакаміты паэт і музыка, з гумарам крэатыўна распавёў пра альманах, даў агляд апошняга дзесятага выпуску.

Затым з паведамленьнем пра гісторыю выхаду альманахаў сярод беларускай эміграцыі выступіў вядомы гісторык, бібліёграф і дасьледчык беларускай грамады ў Амэрыцы др. Вітаўт Кіпель. Ён адзначыў, што выхад ужо дзесятага выпуску альманаху “Беларус” – гэта сапраўднае і значнае дасягненьне беларускай культуры ў замежжы, паказчык беларускай прысутнасьці ў Амэрыцы і вынік ахвярнай працы рэдактара, які штогод зьбірае тэксты для публікацыі, шукае карэктараў, займаецца няпростымі пытаньнямі друку, а тады і распаўсюду выданьня. “Пачаць гэтую справу, а тады знайсьці тых 57 аўтараў выданьня, залатвіць карэкту, выдрукаваць і потым зноў і зноў брацца за гэтую справу – гэта сапраўды выдатная, але і цяжкая праца, за якую сп. Марат Клакоцкі мусіць быць належна ўшанаваны”. Затым др. Кіпель зрабіў агляд беларусіх альманахаў у замежжы. У сувязі з прысуджэньнем Максу Шчуру Прэміі Гедройця др. Кіпель адзначыў, што сярод іншых нацыяў выбітныя пісьменьнікі якіх пачыналі з публікацыяў у альманахах, варта тут згадаць хаця б такіх эміграцыйных аўтараў, як расеец Іван Бунін або паляк Чэслаў Мілаш, якія сталі пазьней Нобэлеўскімі ляўрэатамі. Др. Кіпель адзначыў, што творчасьць Макса Шчура была даўно заўважаная на эміграцыі, і перавыданьне ягоных тэкстаў было зробленае Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва яшчэ ў 1997 годзе, а ў 2004 годзе М. Шчур стаў ляўрэатам прэміі імя Янкі Юхнаўца (ЗША) за раман “Там, дзе нас няма”. Др. Кіпель таксама адзначыў, што некаторыя творы з альманаху пачынаюць выходзіць на Бацькаўшчыне, як, прыкладам, перадрукі твораў Зянона ў “Дзеяслове”, і гэта добры знак.

Сп. Сяржук Сокалаў-Воюш дадаў некаторыя факты зь біяграфіі Макса Шчура, якога наагул ня дужа добра ведаюць на Бацькаўшчыне. Ягоная маці была зь сям’і рэпатрыянтаў з Аргентыны, і яе родная мова, поруч зь беларускай, гэта гішпанская. М. Шчур перакладае з гішпанскай, чэскай і ангельскай. Сёньня ён ўжо не адзіны перакладчык Боба Дылана па-беларуску, бо перакладалі яго таксама Ян Максімюк, Андрэй Хадановіч і сам выступоўца. Варта адзначыць, што Макс Шчур яшчэ і досыць таленавіты бард.

Наступнай часткай праграмы прэзэнтацыі былі выступы аўтараў альманаху, у альфабэтычным парадку прозьвішчаў – так, як і ў самым выданьні. Кожнага з аўтараў прадстаўляў вядучы, сп. Сяржук Сокалаў-Воюш, які таксама задаваў пытаньні пра творы. Першым выступіў сп. Віталь Зайка. Ён адзначыў, што абодва апавяданьні ў гэтым выпуску заснаваныя, хоць і ў розных прапорцыі, на рэальных падзеях, якія пасьля былі пераасэнсаваныя праз мастацкае пераўвасабленьне. “Нам трэба аналізаваць такія падзеі, як амаль сымбалічнае адмаўленьне ад сябе, сваёй тоеснасьці, калі чалавек, што лічыць сябе беларусам, і што сам прыехаў на сьвяткаваньне Купальля – учыняе блюзьнерскі акт кіданьня ў агонь нацыянальнай вышытай кашулі ды саколкі з выявай “Пагоні”. Трэба аналізаваць і выстаўляць на сьвет такія дзеяньні, што адлюстроўваюць цяперашні стан нацыянальнай тоеснасьці сярод беларусаў. Чым больш гучна, больш глыбока будуць абмяркоўвацца пытаньні тоеснасьці, тым большы грамадзкі рэзананс і адпаведны грамадзкі пагляд справаў гэта выкліча. Іншым вызначальным кампанэнтам вырашэньня праблемы тоеснасьці можа стаць дывэрсіфікацыя культурных каштоўнасьцяў, выхад зь ценю расейскай культуры праз уцягненьне ў культурны зварот для беларусаў іншых, не створаных у Расеі, тэкстаў ды ідэяў. Гэта можа быць зроблена празь пераклады й непасрэдныя запазычаньні, праз адкрытасьць да сьвету – замест расейскай ксэнафабічнай насьцярожанасьці й адасобленасьці, якую ў дзялянцы культуры практыкуюць адукацыйная і мэдыйная сфэры ў Беларусі. Напрыканцы сп. Зайка прачытаў у сваім перакладзе верш польскага паэта Антонія Слонімскага “Ён – з маёй айчыны”.

Сп. Зянон Пазьняк, таксама адзін з аўтараў альманаху, распавёў пра сваё захапленьне паэзіяй, і пра колішняе сваё зацікаўленьне да японскага паэтычнага жанру хоку – трохрадковых вершаў, у якіх сэнс заключаны ў апошнім радку. Сп. Пазьняк прачытаў некалькі сваіх вершаў зь сёлетняга выпуску альманаху: “Еду ў санях”, “Пах”, “Шум дажджу”. Ён падзякаваў рэдактару альманаху за тое, што ён адзін робіць вялізную справу, аб’ядноўвае столькі аўтараў і выпускае выданьне ўжо 10 год. “Гэта проста подзьвіг. Гэта вялікая справа для нашай культуры, і яна безумоўна знойдзе шырэйшы водгук у нашым народзе”.

Паэтка Марына Кражова, што ня першы раз выступае на старонках альманаху са сваімі паэтычнымі творамі, падзялілася роздумамі, чаму яна піша па-беларуску, чаму для яе важная творчасьць на беларускай мове, і як можна захаваць мову на эміграцыі, за тысячы міляў ад Бацькаўшчыны.

Сп. Юрась Міхед распавёў пра свой шлях да беларускай мовы, хоць ніколі ня жыў у Беларусі, пра свае карані ў Рэчыцкім раёне і пра падарожніцкі блёг, які ён піша ў трох вэрсіях – па-расейску, па-беларуску і па-ўкраінску. “Цяпер рэчы, што я напісаў, у адрозьненьні ад таго, што стаўлю ў сеціва, будуць захоўвацца,



*заканчэньне на бачыне 3*

# Беларускія выходныя ў Нью-Ёрку

Раніцай 16-га кастрычніка невялічкая група беларускай моладзі зь Нью-Ёрку і Нью-Джэрзі спаткалася на чыгуначнай станцыі Колд-Спрынг (Cold Spring), маленькім мястэчку ў штаце Нью-Ёрк. Сабралася нас пятнаццаць беларусаў і адзін ірляндзкі сябар.

У нас быў плян пайсьці ў паход у горы, што ляжаць побач гарадка і ўздоўж ракі Гудзон. Спачатку мы выбралі сьцежку ў 5 міляў (8 км). Але, дзякуючы спрыяльнаму надвор'ю, усе былі ў цудоўным настроі, поўныя энтузіязму – і шлях наш атрымаўся даўжынёю 15 міляў (24 км). Падняліся мы на Брэйкнэк-Рыдж вышынёю 380 мэтраў або 1 260 футаў, дзе ўзнялі бела-чырвона-белы сьцяг і зрабілі пікнік-прыпынак. Затым накіраваліся на вяршыню гары Бул-Гіл вышынёю 430 мэтраў або 1 420 футаў. Там такая прыгажосьць, што аж захапляе дыханьне. Ды яшчэ восеньскія фарбы дадаюць асаблівую прыгажосьць горна-лясному ляндшафту. Усе былі ў зачараваныя гэтым хараством. Я асабіста была ў гэтых месцах ужо далёка ня першы раз, але скажу, што кожны мой паход у гэтай мясцовасьці – гэта новыя пачуцьці. Я атрымліваю сапраўдную асалоду, калі дасягаю вяршыні гары, ачышчаю там свае думкі і напаўняюся новай сьвежай прыроднай энэргіяй.



Трэба асобна сказаць пра нашу кампанію, што была вельмі душэўная. Мы ўсе былі на адной хвалі, усе прыйшлі менавіта ўзьбірацца на горы, а ня проста прагуляцца па лесе. Мы абмяркоўвалі "ўсемагчымыя" тэмы беларускага і амэрыканскага жыцьця, жартавалі і падтрымлівалі адзін аднаго на цяжкіх пад'ёмах.

Бліжэй да 5-й гадзіны вечара мы спусьціліся з гараў і галодныя пасьпяшаліся ў мясцовы бар, дзе смачна павячэралі. А пасьля стомленыя, але задаволеныя, нібы выкапалі талакою бульбу, паехалі дадому. Аднагалосна вырашылі, што будзем яшчэ ладзіць такія беларускія паходы і дасягаць новых вяршыняў.

***Ганна ШАРКО***

## Сход і прэзэнтацыя

*заканчэньне з бачыны 2*

як хочацца спадзявацца, вечна – дзякуючы альманаху. Вельмі прыемна думаць, што пасьля таго, як мяне ня стане, недзе ў бібліятэках застануцца стаяць выданьні з маім імём, з маімі радкамі на папяровых старонках".

Сп. Сокалаў-Воюш са свайго ўвасабленьня вядучага пералучыўся на аўтара. Ён заклікаў чытачоў самых прачытаць ягоныя творы, што надрукаваныя сёлета: тры беларускія нацыяналістычныя казкі й "Успаміны старога бальшавіка", напісаныя на трасянцы. Сп. Сокалаў-Воюш сказаў, што лепшым з напісанага сёлета лічыць свае камэнтары, якія адаслаў на сайт "Хартыі-97", але там яны не былі прынятыя – напэўна, з прычынаў, не датычных мастацтва. Сам жа выступоўца прачытаў свае пераклады вершаў зь песень Боба Дылана. Ён таксама адзначыў важнасьць перакладаў для разьвіцьця літаратуры і падкрэсьліў, што таленавіта зробленыя пераклады набываюць іншае гучаньне, адрознае ад арыгіналу, і пачынаюць сваё ўласнае жыцьцё.



З інфармацыяй пра свае творы і выступіла аўтарка альманаху сп-ня Валянціна Якімовіч. Яна распавяла перадгісторыю стварэньня ўспамінаў, апублікаваных сёлета, і пра сваё першае знаёмства са сп. Зянонам Пазьняком, якое шмат паўплывала на ейнае жыцьцё.

Напрыканцы прэзэнтацыі сп. Пазьняк яшчэ раз падкрэсьліў важнасьць перакладчыцкай дзейнасьці для беларускай літаратуры і культуры наагул, адзначыўшы, што літаратура ўзбагачаецца добрымі перакладамі, якія робяцца часткай яе, набыткам нацыянальнай культуры.

Затым адбылося невялікае прыняцьцё з пачастункамі, падчас якога прысутныя мелі нагоду бліжэй пазнаёміцца з аўтарамі альманаху і набыць іхныя аўтографы. Прысутныя выказвалі падзяку і захапленьне цікавай і зьмястоўнай прэзэнтацыяй, якая прайшла з посьпехам, пра што сьведчыць хаця б незвычайная колькасьць удзельнікаў – больш за 70 чалавек.

***Віталь ЗАЙКА***

# "Галгатня пра ЗыШыА"

## In Marx we trust

За каго галасуюць амэрыканскія беларусы? Існуе памылковае перакананьне, што беларуская дыяспара ў Амэрыцы мае правыя, або капіталістычныя, перакананьні. Не, беларусы Амэрыкі, калі і мелі/маюць нейкія калектыўныя перакананьні, то гэта ў пераважнай большасьці левыя, сацыялістычныя погляды. Так было заўсёды, бо сацыялістычныя погляды былі асноваю абедзьвюх беларускіх дзяржаўнасьцяў, БНР (рады) і БССР (саветы), здавалася б, варожыя ўтварэньні, але заснаваныя на аднолькавых, сацыялістычных ідэалах. Асноваю БНР пасьля выданьня 3-й Устаўнай граматы былі тры партыі: Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (БСДП), Беларуская партыя сацыялістаў-фэдэралістаў (БПСФ), Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянэраў (БПСР). Праграма першай (Тарашкевіч, Лёсік, Луцкевічы) прадугледжвала рэфармісцкае пераўтварэньне капіталістычнага ладу грамадзтва ў сацыялістычны. У праграму другой (Варонка, Цьвікевіч, Крычэўскі, Серада) былі пакладзеныя інтарэсы і імкненьні працоўнага люду. Трэцяя (зь менш вядомымі сялянскімі лідэрамі) ставіла задачу ўстанаўленьня "дыктатуры працоўных", сацыялізацыі зямлі, каапэрыраваньня сялянства. Таму нядзіва, што яўныя, або прыхаваныя, левыя погляды беларусы прывезьлі разам з сабою і на эміграцыю.




Падчас Другой сусьветнай вайны сацыялістычныя погляды беларускай эліты ізноў палярызаваліся вакол сацыялізмаў (нацыянальнага сацыялізму Трэцяга рэйху і інтэрнацыянальнага СССР). Тыдзень перад нападам на СССР Паўль Гёбэльс зрабіў запіс у сваім нататніку, адзначаючы, што гітлераўская Нямеччына ідзе з вайною, каб зьнішчыць жыдоўскі бальшавізм, і пасьля гэтага збудаваць там сапраўдны сацыялізм…

Зразумела, што правых, капіталістычных поглядаў, ані ў першым, ані ў другім БНФах быць таксам не магло, бо гэтыя погляды не вымяраюцца любоўю ці нелюбоўю да Расеі або Амэрыкі, а прыхільнасцю да пэўных нормаў, на якіх грунтуецца грамадзтва і дзяржава. Некалькі дзесяцігодзьдзяў беларусы сапраўды падтрымлівалі рэспубліканцаў, але не за іхнюю ідэалягічную плятформу, а за выразную антысавецкую рыторыку, падтрымку такіх праектаў, як Радыё Свабода і гэтак далей. Сёньня амэрыканскія беларусы на баку дэмакратаў, бо антырасейская рыторыка нашмат больш выразная і агрэсіўная. Нядаўна Янка Запруднік выступіў з нататкаю ў НН пра тое, што беларусы павінны галасаваць за Клінтаніху менавіта з-за гэтага. Прыйшоў час, калі беларусы Амэрыкі ня мусяць ужо разьдзяляць сваю нелюбоў да капіталізму ад сваёй нелюбові да Расіі. Усіх аб'яднаў сацыялізм.

**Віталь ВОРАНАЎ**

### Уплаты ў Згуртаваньне Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàíüí³:

**Ю. Акуліч** ....................60
**М. Дзікун** ....................60
**Н. Зуеўская** ....................60
**К. Пік** ....................60
**Г. Радзіон** ....................60
**Д. Харытончык** ....................60

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне "Пагоня" шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*
**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня "Пагоня"** *Viktar Yedzinovich.*

*Паважаныя* ***Жана Карнілава, Натальля Матыс, Павал Панасевіч, Аляксандар Пашэнка, Дзьмітры Сілко,*** *калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "ПАГОНЯ"**
адбудзецца ў суботу **12-га лістапада 2016 года** на Мангэтане ў Доме Маракоў па адрасу:
***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі* ***L, N, Q, R, W, 4, 5, 6*** *да прыпынка* ***Union Square****.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад* ***Union Square*** *па* ***15-й вуліцы*** *на скрыжаваньні з* ***Irving Place****.*

Заля сходаў на 2-м паверсе. Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, лджаных арганізацыяй, можна даведацца, наведаўшы сайт* ***pahonia.com***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

**Ю. Акуліч** ....................30
**М. Дзікун** ....................30
**Н. Зуеўская** ....................30
**В. Кавалёва** ....................30
**В. Кузьменка** ....................30
**З. Левіт** ....................30
**К. Пік** ....................30
**Г. Радзіон** ....................30
**В. Трыгубовіч** ....................30
**Д. Харытончык** ....................30
**М. Цітова** ....................30

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні"* ***Viktar Yedzinovich.***
*Падпіску таксама можна афарміць на сайце* ***www.e-krama.com***

*Электронны варыянт бюлетэня можна знайсьці ў інтэрнэце на сайце* ***e-krama.com***